

АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

8 сакавіка 2000 года
Цана 70 рублёў

№ 10 (2672)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 г.

# СА СВЯТАМ ВЯСНЫ!

## БЕЛАРУСЫ СВЕТУ!



## ПАКЛАНІЦЕСЯ ДРУЦКУ...

● **Мікалай ЛОБАЧ**, *кандыдат эканамічных навук, доктар філасофіі Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій (Масква).*

● **Рыгор ЛЯНЬКЕВІЧ**, *кандыдат філасофскіх навук (Мінск).*

Старажытныя гарады Белай Русі — гэта нашы гістарычныя карані, гэта вытокі нашай дзяржаўнасці, культуры і ментальнасці. Як важна гэта ўсведамляць усім нашым суайчыннікам, у першую чаргу на Беларусі, Украіне і ў Расіі. Сімвалічна, што на рубяжы тысячагоддзяў будуць адзначацца юбілеі шэрагу гарадоў старажытнай Русі, якія некалі ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі, Вялікага княства Літоўскага і Вялікага княства Маскоўскага: 900-годдзе Барысава, 1000-годдзе Друцка, 1025-годдзе Трубчэўска, 1055-годдзе Корасценя і інш. (Нагадаем, што сталіцы суседніх славянскіх дзяржаў Мінск і Масква адзначылі 930 і 850-годдзе). Летась у старажытным беларускім горадзе Барысаве, які заснаваў друцкі князь Барыс, у сувязі з набліжэннем юбілею горада адбылася канферэнцыя навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадскасці з Беларусі і Расіі на тэму "Старажытныя гарады Беларусі: гісторыя і сучаснасць". Выступаючыя на канферэнцыі, у ліку якіх былі і прадстаўнікі Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі", адзначалі, што для таго каб захаваць свае гістарычныя карані, трэба ведаць вытокі і гісторыю роднага краю. Пасля канферэнцыі гэта думка значна пашырылася не толькі ў Расіі і Беларусі, але і на Украіне. Некалькі тыдняў таму створаны сумесны беларуска-расійскі праект па святкаванню юбілеяў старажытных гарадоў, у т. л. 1025-годдзя Трубчэўска (Бранская вобласць). Яшчэ раней створаны шэраг аргкамітэтаў у сувязі з 1000-годдзем Друцка.

(Заканчэнне на 2-й стар.).



Беларуская спявачка Ірына ДАРАФЕЕВА.

### ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Алесь БАРСКІ** (Польшча)

Жанчыны — дочкі Беларусі роднай!
Без вас жылося б сумна нам на свеце.
Кахаць і песціць вас заўсёды модна,
Так, як кахаем сонца, як кахаем вецер!

І усяроўна, дзе вас лёс пакінуў,
У краі родным ці за акіянам.
Не забывайцеся: адна у нас Айчына
І кожны з нас яе падданы.

Віншую вас са святам міжнародным —
І маладых, і пажылых таксама.
Няхай жыве Сусвет прыгожы і
свабодны.
І ў ім жанчыны — нашых сэрцаў Дамы.

*Люты 2000 г.*

### ВІНШУЕМ!

Не ведаю, як для каго, а для мяне жанчыны былі і застаюцца найвышэйшай радасцю, стымулам і апірышчам у жыцці. А таму ад усёй душы віншую ўсіх, з кім мяне доля злучала на няпростай жыццёвай дарозе і, зразумела, чытачак "Голасу Радзімы" з усіх 48 краін свету, а найперш маю слаўную дочачку — донью Таню, яе маму, дарагую сястру Клаўдзію, са светлым сакавіцкім святам і ад шчырага сэрца жадаю ўсім болей сонечнага веснавога настрою, поспехаў і шчасця. Ну а далёкай і вабнай "беларусцы свету", нашай неспакойнай "пералётнай птушцы" Іне Снарскай, апрача віншаванняў, пажаданне высокага палёту ў творчасці.

Сваё прысвячэнне шле Іне Снарскай і яе прыхільніца з Чыкага Вера Журавель (Рамук):

Каб была я птушкай,
Каб я крылле мела,
Гэтай жа мінутай
Дамоў бы паляцела.

Разам з салавейкам
Мілае старонкі
Спевам бы склікала
Птушак пералётных.

З павагай **Яўген ЛЕЦКА**.

### ПОСПЕХАЎ!

ЛАТВІЯ

У беларускім таварыстве "Уздым" добрая навіна: Тацццяна Бучэль паспяхова абараніла магістэрскую працу ў Даўгаўпілскім педагагічным універсітэце. Яе тэма — "Фразеалагізмы з міфалагічнымі кампанентамі ў беларускай і рускай мовах".

Т. Бучэль вядзе беларускі спецкурс у гэтым універсітэце і вучыць дзетак у беларускай нядзельнай школе.

Са званнем магістра філалогіі спадарыню Бучэль шчыра віншавалі сябры "Уздыму", супрацоўнікі Цэнтра беларускай культуры і Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе.

**Тацццяна ЗАХАРЧУК.**

### УРУЧАНЫ ПРЭМІІ

У Вялікай зале Дома літаратараў адбылася цырымонія ўручэння літаратурных прэмій Саюза беларускіх пісьменнікаў. Лаўрэатамі сталі старэйшы паэт рэспублікі Максім Лужанін, вядомы празаік Леанід Левановіч. Яны адпаведна ўдастоены прэмій імя Аркадзя Куляшова і Івана Мележа. У намінацыі "Дзіцячая літаратура" ўзнагароду атрымаў паэт Авяр'ян Дзеружынскі, а прэмію імя Уладзіміра Калесніка заслужыў за сваю публіцыстычную творчасць Сяргей Панізнік.




**У вялікім кнігазборы Міколы Улашчыка зборнік лірыкі "Зорка Венера", выдадзены ў Мінску ў 1972 годзе, вылучаўся адметнай асаблівасцю. Яго ўпрыгожваў "букет" аўтографаў — больш як 40 славутых беларускіх літаратараў: Р. Барадуліна, М. Аўрамчыка, Е. Лось, У. Караткевіча, Г. Бураўкіна, М. Танка...**



# БЕЛАРУСЫ СВЕТУ! ПАКЛАНІЦЕСЯ ДРУЦКУ...

Пачатак на 1-й стар.

Гэткія ж камітэты (саветы) з'яўляюцца і на Украіне. На думку некаторых навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў, было б мэтазгодна на рубяжы тысячагоддзяў прадстаўнікам грамадскасці 3-х славянскіх краін сустрэцца і абмеркаваць, што трэба зрабіць, каб у 3-м тысячагоддзі не зніклі з нашай зямлі і памяці старажытныя гарады. Лічым, што гэту сустрэчу можна было б правесці ў верасні гэтага года ў Магілёве, які, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, у XII стагоддзі быў памежнай крэпасцю Друцкага княства. Як вядома, з усіх старажытных гарадоў Беларусі найбольш жорсткі лёс напаткаў Друцк, на месцы якога сёння знаходзіцца невялічкая вёска.

Аднак кожнаму, хто ведае гісторыю Беларусі, назва Друцк нагадвае вельмі многае. Непрыступным бастыёнам стаяў Друцк у XI—XIII стагоддзях (на думку некаторых гісторыкаў, яго магутныя валы і сцены не змаглі ўзяць нават татары), квітнеў горад і ў наступных стагоддзях. Потым у выніку шэрагу войн, якія вялі суседнія дзяржавы, Друцк, што знаходзіўся на памежжы Русі Літоўскай і Русі Маскоўскай, быў на працягу некалькіх стагоддзяў спустошаны і разбураны. Верагодна, што найбольш вялікія страты гораду прынеслі войны XVI стагоддзя, у тым ліку паход крымскага хана Махмет Гірэя, які "в Друцку многа зла сотворил" (1506). Заходнееўрапейскі дыпламат І. Корб, які ў канцы XVII стагоддзя наведаў Друцк, адзначаў: "Кажуць, што ў мінулым стагоддзі гэты горад меў 7 міль у акружнасці і славіўся знакамітымі храмамі, але ў час жорсткай вайны... зведаў такое спусташэнне, што да яго можна аднесці словы паэта, які плача над руінамі Троі: дзе стаяў Пергам — там цяпер калоссе".

Паступова пра старажытны горад і яго славу сталі забываць. Відавочна, што прычынай гэтай з'явы былі і некаторыя палітычныя абставіны, асабліва савецкага часу, калі гісторыя шэрагу гарадоў Беларусі, нават такіх, як Полацк, замоўчвалася. Між тым, Друцк з'яўляецца амаль адзіным старажытным горадам Беларусі, які з пэўнай падставай можна назваць класічным археалагічным помнікам. Тут выяўлены ўсе часткі горада ранняга сярэднявечча: дзядзінец, вакольны горад, пасад і курганны могільнік. Паводле новых археалагічных даследаванняў, праведзеных у мінулым годзе В. Ляўко, супрацоўніцай Інстытута гісторыі НАН Беларусі, і шэраг прадметаў, выяўленых на тэрыторыі навакольнага горада, датуюцца X стагоддзем, а некаторыя матэрыялы з дзядзінца (гарадзішча) — V стагоддзем. Археалагічныя раскопкі і старыя летапісы даюць магчымасць зазірнуць у гісторыю аднаго з самых старажытных гарадоў Беларусі. Пэўны час Друцк моцна саперніча з Мінскам, а друцкія князі ваявалі з мінскімі, адстойвалі свае правы на велікакняжацкі стол у Полацку. Там жа на дзядзінцы жылі баяры і княжацкія дружыннікі, ускраіну гарадзішча займалі слугі князёў і рамеснікі. Значная частка апошніх жыла ў вакольным горадзе, а гарадская бедната — на неўмацаваным пасадзе.

Як ужо падкрэслівалася, Друцк меў вялікае значэнне ў ваеннай гісторыі ўсходніх славян. Аб гэтым жа сведчаць і шмат рэчаў ваеннага ўжытку, якія знойдзены пры раскопках старажытнага горада.

Аб культурных, эстэтычных патрэбах жыхароў старажытнага горада сведчаць шматлікія жаночыя ўпрыгажэнні: бранзалеты, шпількі, пярсцёнкі, так званыя пісалы, шахматныя фігуры, зашчэпкі ад кніг (магчыма, і ад рукапісаў).

**НА ЗДЫМКУ: прадметы побыту і ўпрыгажэнні жыхароў старажытнага Друцка.**

**Фота В. ХАРЧАНКІ.**

(Заканчэнне будзе).

**РАЗЛІКОВЫЯ РАХУНКІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ НАРАДЖЭННЯ ПРАСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ ВЁСКІ ДРУЦК**

**Беларускія рублі**

ААА "Белпрамбудбанк", Талачынскае аддзяленне
№ 3015000820014
МФО 150801327 УНН 300601981 ОКПО 29090644

**Расійскія рублі**

ААА "Белпрамбудбанк", Талачынскае аддзяленне
№ 3015000820014/858
МФО 150801327 УНН 300601981 ОКПО 29090644

**Валютны рахунак**

ААА "Белпрамбудбанк", Талачынскае аддзяленне
№ 3015000820014/001
МФО 150801327 УНН 300601981 ОКПО 29090644

*Указаць у плацёжным даручэнні: "Ахвяраванне на будаўніцтва храма ў вёсцы Друцк".*

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

# ТАМАРА КАРАСЦЯЛЁВА: ДЗІЦЯЧЫ САД — РАТУНАК ДЛЯ МАЛАДОЙ СЯМ'І

*Запытайцеся ў беларускіх жанчын, што яны думаюць пра дзіцячы сад. І любая маці адкажа, што ў цяперашніх умовах без яго паслуг не абысціся. Працаваць жанчыне трэба абавязкова: на адну зарплату мужа не пражывеш. Дазволіць сабе наняць няню ці аддаць у прыватны сад могуць адзінкі. А ў звычайным дзяржаўным садзіку, што б пра яго ні казалі, цёпла, чыста. Там займаюцца з дзецьмі — яны танцуюць, спяваюць, малююць.*

*Вось і атрымліваецца статыстыка. На Беларусі дзіцячыя сады наведваюць 71,3 працэнта дзяцей дашкольнага ўзросту. Гэта самы высокі паказчык за шмат гадоў. Для параўнання нагадаем, што ў Расіі ён складае 51 працэнт, на Украіне — каля 40, у Казахстане — 16 працэнтаў.*

*Пра асаблівасці дзяржаўных дашкольных устаноў Беларусі наш карэспандэнт Алена СПАСЮК гутарыць з кіраўніком упраўлення дашкольнага выхавання Міністэрства адукацыі Тамарай КАРАСЦЯЛЁВАЙ.*

— Дашкольныя ўстановы на Беларусі працуюць па нацыянальнай праграме "Пралеска", якая накіравана на развіццё асобы дзіцяці з улікам індывідуальных і ўзроставых асаблівасцей. Калі параўнаць плату за сад, якую ўносяць бацькі, то яна на Беларусі ў некалькі разоў меншая, чым у суседніх краінах, напрыклад, у Расіі ці Украіне.

**— А якія суадносіны платы за садзік сям'і і дзяржавы?**

— Бацькі плацяць дзесятую частку ад рэальнага кошту харчавання дзяцей у дашкольнай установе (за снежань 1999 года яна склала 1 мільён 500 тысяч рублёў, 1,7 долара ЗША). Дзеці не павінны адчуваць на сабе праблем дарослых.

**— Наколькі ў дзіцячых садах улічваецца нацыянальны аспект?**

— Па-першае, сад для дзяцей выбіраюць бацькі (і мову, на якой там навучаюць). Па-другое, колькасць беларускамоўных садоў напрамую залежыць ад колькасці такіх школ. Калі бацькі мяркуюць вучыць сваё дзіця на беларускай мове, іх, зразумела, зацікавіць і пэўны сад. У лічбах сітуацыя выглядае так: 41,6 працэнта дзіцячых устаноў вядуць навучанне на беларускай мове, 8,6 працэнта — на рускай і беларускай мовах, астатнія — на рускай мове.

**— Як вы ацэньваеце матэрыяльную базу беларускіх дзіцячых садоў?**

— У нас створаны мэтавы збор, куды на ўтрыманне садоў адлічваюць сродкі ўсе прадпрыемствы, арганізацыі незалежна ад форм уласнасці. Менавіта адтуль павінны выдзяляцца грошы на цацкі, мэблю, спартыўны інвентар. У выніку ва ўсіх ёсць спартыўныя, музычныя залы, у некаторых — басейны, камп'ютэрныя класы. Многае залежыць ад узаемадзеяння бацькоў, мясцовых кіраўнікоў і выхавальнікаў. У Мінску ёсць дзіцячыя ўстановы, дзе шмат розных гурткоў, секцый, студый. Напрыклад, у садзіку № 562 выкладаюць дзве замежныя мовы, рытміку, харэаграфію. Там ёсць камп'ютэры, на якіх займаюцца дзеці за пэўную плату. Такая ж сістэма наведвання фізіяпрацэдур, басейна. І такіх садоў шмат. У арганізатараў дашкольнага выхавання ў выканкамах ёсць банк даных пра патрэбы бацькоў і магчымасці садзікаў.

**— З якога ўзросту дзеці наведваюць дашкольныя ўстановы?**

— Ёсць палажэнне, па якому ў яслі належыць прымаць дзяцей з двух месяцаў. Большасць жа дзяцей прыходзяць у яслі ў 1,5 года, у сад — з трох. Існуюць і рознаўзроставыя групы, дзе колькасць дзяцей — 12 чалавек, і камплектуюцца яны ў асноўным па сямейнаму прынцыпу (браты, сёстры, малодшыя, старэйшыя).

**— Ці шмат дзяцей да года аддаюць у яслі?**

— Не шмат, але ёсць сем'і, якія не могуць дазволіць сабе, каб маці даглядала дзіця дома да трох гадоў ( працягу гэтага тэрміну жанчын атрымлівае матэрыяльную дапамогу, захоўваецца яе працоўнае месца). Сёння існуюць альтэрнатыўныя

ЗАЎТРА ПАЧЫНАЕЦЦА СЁННЯ



**Адной з 18 аздараўленчых устаноў Брэсцкай вобласці з'яўляецца рэспубліканскі санаторый першай катэгорыі "Буг", які знаходзіцца ў сасновым бары на беразе ракі Мухавец у Жабінкаўскім раёне. У кожны заезд на 24 дні тут папраўляюць здароўе 580 чалавек. Звычайна сярод іх бывае сотні паўтары дзяцей з раёнаў чарнобыльскай зоны.**

**НА ЗДЫМКУ: на прагулцы.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

У СКАРЫНАЎСКІМ ЦЭНТРЫ

# ПРАГРАМА «ХРЫСЦІЯНСТВУ — 2000»

У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны адбыўся ўстаноўчы сход Міжнароднага камітэта па рэалізацыі Праграмы "Хрысціянству — 2000". У яго склад увайшло каля 60 сяброў: вядомых вучоных — даследчыкаў хрысціянства, у тым ліку замежных, выдаўцоў, асветнікаў, святароў. Прадстаўлены амаль усе навуковыя асяродкі, якія тэарэтычна ці практычна маюць адносіны да распрацоўкі гэтай тэматыкі. Старшынямі Міжнароднага камітэта абраны акадэмік Радзім Гарэцкі, прафесар Анатоль Грыцкевіч і дырэктар цэнтра, загадчык аддзела праблем хрысціянства і нацыянальнага развіцця Любоў Уладыкоўская-Канаплянік.

На сходзе падкрэслівалася выключная актуальнасць узнятай праблематыкі, неабходнасць глыбокага асэнсавання феномена хрысціянства, разумення яго шматбаковай гістарычнай і перспектыўнай ролі на Беларусі. Звярталася ўвага на тое, што існуе шмат нявырашаных тэарэтычных, светапоглядных пытанняў. Разам з тым трэба падсумаваць зробленае ў гэтым кірунку і ў далейшай працы паспрабаваць пераадолець супрацьпастаўленне навукі і рэлігіі.

Ініцыятарам распрацоўкі праграмы выступіў Скарынаўскі цэнтр. Праграма "Хрысціянству — 2000" створана ў межах рэалізацыі канцэпцыі развіцця цэнтра, дапаўняе дзяржаўны "План мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкавання 2000-годдзя хрысціянства ў Рэспубліцы Беларусь".

Мэта праграмы — духоўнае, культурнае, інтэлектуальнае развіццё беларускага народа.

Праграма "Хрысціянству — 2000" на першым этапе ўключае ў сябе чатыры праекты:

"ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ"

Прадугледжвае аналіз выдадзеной у Беларусі літаратуры, падрыхтоўку да выдання і выданне кніг у серыях:

"ХРЫСЦІЯНСТВА — НАЦЫЯ — КУЛЬТУРА" (навукова-фундаментальныя калектыўныя і аўтарскія манаграфіі),

"БЕЛАРУСКІЯ ХРЫСЦІЯНСКІЯ ДЗЕЯЧЫ" (асветніцкая серыя, куды будзе ўключана і выданне "Вянок беларускім святым"),

"ХРЫСЦІЯНСКАЯ ЛІТАРАТУРА" (пераклад невядомых у Беларусі тэалагічных прац, напісанне і выданне арыгінальных);

— "НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ"

Мае на ўвазе арганізацыю даследаванняў і даследаванне праблем:

— сутнасць хрысціянскага светапогляду,

— вызначэнне культурнай іерархіі духоўных з'яў,

— актуалізацыя духоўнага пачатку ў свецкай культуры і адукацыі,

— гісторыя хрысціянства на Беларусі,

— роля хрысціянства ў развіцці беларускай культуры,

— спецыфіка ўзаемадзеяння праваслаўнага і каталіцкага менталітэтаў на Беларусі,

— перспектыва экуменічнага руху на Беларусі,

— дынаміка сучасных этнаканфесійных працэсаў на Беларусі і іншыя.

— "АСВЕТНІЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ"

Уключае ў сябе "круглыя сталы", семінары, канферэнцыі, кангрэсы, выступленні ў СМІ, на радыё і тэлебачанні і г. д.

— "КААРДЫНАЦЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ"

Мае на ўвазе каардынацыю дзейнасці адпаведных навукова-выдавецкіх асяродкаў, збіранне і сістэматызацыю інфармацыі (навуковай, асветнай, выдавецка-бібліяграфічнай) па хрысціянству на базе Скарынаўскага цэнтра.

Праграма адкрыта для ўдзелу.

Прапановы і адпаведную інфармацыю просім дасылаць у Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, у аддзел праблем хрысціянства і нацыянальнага развіцця (220050, Мінск, Рэвалюцыйная, 15, Скарынаўскі цэнтр, тэл.-факс 220-93-50), старшыні Міжнароднага камітэта.



варыянты — можна аддаваць малога ў яслі як на ўвесь дзень, так і на некалькі гадзін.

**— Якія садзікі выклікаюць асобую цікавасць бацькоў?**

— Мы сутыкнуліся з новай з'явай — канкурэнцыяй сярод дашкольных устаноў. Сёння бацькі — спажыўцы і заказчыкі паслуг сада. Цяпер яны цікавяцца не толькі матэрыяльнай базай (басейн, камп'ютэрныя класы, выяўленчыя студыі), але і тым, наколькі кваліфікаваныя ў ім выхавальнікі, па якіх праграмах яны працуюць. Сёння маці не вядзе сына ў бліжэйшы садзік, а шукае месца, дзе, на яе погляд, пануе прыемная атмасфера і дзе ўсебакова развіваюць дзіця. Большасць выхавальнікаў у садах маюць сярэднюю спецыяльную ці вышэйшую педагагічную адукацыю, вялікі вопыт работы.

**— Традыцыйна большай папулярнасцю сярод бацькоў і выхавальнікаў карыстаюцца дашкольныя ўстановы ведамаснай падпарадкаванасці. Тым не менш перыядычна ўзнікае пагроза пераводу ўсіх дзіцячых устаноў пад кіраўніцтва выканкамаў.**

— Сапраўды, гэтая тэма не губляе актуальнасці. У 90-х гадах буйныя прадпрыемствы збіраліся закрываць свае дзіцячыя сады, бальніцы, дамы адпачынку, бо апошнія вымагалі шмат сродкаў на ўтрыманне. Але ў 1992 годзе Вярхоўным Саветам была прынята пастанова, згодна з якой забаронена перапрафіліраваць сетку дашкольных устаноў, а таксама быў створаны пазабюджэтны фонд на падтрымку дзейнасці ведамасных дашкольных устаноў. Спадзяюся, яны будуць развівацца далей. Мінскі трактарны завод, напрыклад, утрымлівае 24 дзіцячыя сады. Дзяржава стараецца рабіць усё, каб захаваць дзіцячыя ўстановы і па магчымасці іх развіваць.

## СІТУАЦЫЯ

**СІЛІВОНЧЫК ПАЎСТАЎ ПЕРАД СУДОМ.** Пракуратура Гомельскай вобласці завяршыла следства па справе расійскага прадпрымальніка Анатоля Сілівончыка. Судовую справу разглядае Светлагорскі раённы суд. Сілівончыку прад'яўлена абвінавачанне адразу па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Ураджэнец Беларусі, аб вызваленні якога прасіў гомельскую пракуратуру нават кіраўнік фракцыі ЛДПР у расійскай Дзяржаўнай думе, абвінавачваецца ў арганізацыі масавых беспарадкаў, супраціўленні работнікам міліцыі, хуліганстве і незаконным пазбаўленні волі грамадзян.

У канцы чэрвеня Анатоль Сілівончык разам з групай выхаванцаў ваенізаванай школы выжывання "Беркут" прыбыў з Сургута ў сваю родную вёску Нікалаеўка Светлагорскага раёна. Тут узброеныя "беркутаўцы" правялі гульню "Зарніца". Дзеянні былі так набліжаны да баявых, што налётчыкі "паланілі" старшыню калгаса, "узялі" сельсавет, блакіравалі дарогі, прымяніўшы сілу, вывелі з дамоў мясцовых жыхароў і сагналі іх у загадзя вызначанае месца. Асабліва абразіла людзей абыходжанне з імі — як з палоннымі.

## РАБІ, ЯК Я



**Кожную раніцу загартоўваецца старшыня Іўеўскага райвыканкама Мікалай ДУНІЧ.**

**БелТА.**

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# КУДЫ ХІСНЕЦЦА МАЯТНІК БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ?

**НА ПЫТАННІ ЖУРНАЛІСТА УЛАДЗІМІРА ДЗЕШКАЎЦА АДКАЗВАЕ Леанід ЗАІКА — ПРЭЗІДЭНТ АНАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРА "СТРАТЭГІЯ", ЧЛЕН ЭКСПЕРТНАГА САВЕТА ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**





***— Леанід Фёдаравіч, з чым падышла эканоміка Беларусі да новага тысячагоддзя?***

— Калі вы маеце на ўвазе філасофію пытання, то я вызначыў бы сутнасць яе наступным чынам: з наборам старых, традыцыйных для Беларусі эканамічных праблем, абцяжараных элементамі новых і не ўспрынятых сусветнай практыкай. З моманту набыцця незалежнасці і суверэнітэту Беларусь шукала свой шлях да "эканамічнага цуду" ў выглядзе сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі. Мадэль не новая. Але нам перш за ўсё трэба авалодаць традыцыйнымі рынкавымі каштоўнасцямі. На працягу апошніх 4 год беларускія палісмейкеры раз за разам апрабоўвалі варыянты кейсіянскай эканамічнай палітыкі, што яўна не ўпісвалася ў асноўныя ўяўленні аб трансфармацыйных зменах, якія дамінавалі ў краінах Усходняй Еўропы. З другога боку, самі рэалізатары не змаглі якасна выкарыстаць кейсіянскія ідэі. Адной з асноўных мэт стаў эканамічны рост, стымулюемы масавымі крэдытнымі эмісіямі ў будаўніцтва і сельскую гаспадарку. Фармальным прыярытэтам называўся і экспарт. Больш таго, урад выбраў варыянт імпартазамяшчэння, а не стымуляванне экспарту як асноватворнага прыярытэту. Пастаяннае штогадовае двухразовае павелічэнне грашовай масы прывяло да "раскручвання" інфляцыйнай спіралі і зніжэння пакупной здольнасці беларускага рубля. Усе спробы рэгуляваць абменны курс нацыянальнай валюты прывялі ў выніку да значнага разрыву паміж афіцыйным і рынкавым курсамі. Амаль усе экспартна-імпартныя аперацыі сталі больш цяжкімі і рызыкоўнымі. Пачалося "масавае бегства" ад беларускага рубля, які так і не стаў агульным сродкам зберажэння — у рэальным сектары, хатняй гаспадарцы, дзяржаве. Траекторыя беларускай эканомікі, якая заахвочвалася таннымі грашыма (што прыносілі ў 1997—1998 гадах значныя палітычныя і эканамічныя дывідэнды), зараз мае шансы імкліва падаць уніз да адзнакі 91-га года. Самая агульная ацэнка становішча гаворыць пра тое, што мінулы 1999 год стаў "сігнальным" для нашых палісмейкераў, якія да гэтай пары не могуць зрабіць рашучых крокаў на шляху інстытуцыянальнай мадэрнізацыі краіны. Зразумела, што ва ўмовах беларускай рэаліі гэта становіцца задачай доўгачасовай палітыкі, арыентаванай на наступнае стагоддзе.

***— Вы сказалі — "сігнальны", значыць, які папярэджвае, кантрольны, звязаны з вынікамі мінулага эканамічнага года?***

— Непасрэдна. Па традыцыі, шматлікія беларускія праблемы тлумачацца расійскімі прычынамі, асабліва фатальнымі вынікамі жніўня 1998. Але пры ўсіх "тлумачальных падыходах" да знешніх фактараў у беларускай эканоміцы ёсць свая ўнутраная супярэчнасць, што выцякае з макраэканамічнай палітыкі.

Самы моцны станоўчы аргумент для ўрада і тых, хто адказвае за эканамічную палітыку, рост аб'ёмаў прамысловай вытворчасці. Так, ёсць амаль што 10-працэнтны прырост, але не трэба забываць, што адначасова на 4—5 працэнтаў у параўнанні з мінулым знізіліся інвестыцыйныя ўкладанні ў эканоміку. Негатыўны эфект прысутнічае і ў нарошчванні запасаў прамысловай вытворчасці. У выніку ўзрастаюць неплацяжы, узнікае запазычанасць па заработнай плаце і іншых выплатах.

Не выпадкова паказчыкі 1999 года прымусілі шматлікіх урадавых чыноўнікаў змяніць погляды на прыярытэты далейшага развіцця краіны. У прыватнасці, усё больш перавагі надаецца экспарту. Аднак у існуючым прагнозе тэмпы яго росту складаюць усяго 101—102 працэнты, што яўна недастаткова для здзяйснення новай экспартнай стратэгіі.

І, нарэшце, інфляцыя, якая ў беларускай практыцы не мае тэндэнцыі да зніжэння. Менавіта яна стала асноўным злом рэальнай эканамічнай палітыкі. Практычна рэспубліка жыве ва ўмовах пастаяннай інфляцыі, і, як вынік, няпэўнасці асноўных эканамічных арыенціраў.

Інакш кажучы, нашы беды — у мяккай грашовай палітыцы. Для параўнання: праводзімая манетарная палітыка расійскага Цэнтрабанка на парадак вышэйшая за нашу грашовую. Пасля дэвальвацыі расійскага рубля сітуацыя ў эканоміцы Расіі стала паляпшацца. Практыка паказала, што дэвальвацыя не ідэнтычная інфляцыі. Летась у Расіі долар вырас у 4 разы, а цэны павысіліся ўсяго толькі на 120 працэнтаў. Адбылася канструктыўная макраэканамічная карэкціроўка. За 9 месяцаў расіяне выплацілі 10 мільярдаў долараў замежных запазычанасцяў, у 2—2,5 раза скараціліся неплацяжы, перавыкананы заданні па збору падаткаў. У нас жа ўсё інакш. Інфляцыя "з'ядае" ўсё. Дасягнуць стабілізацыі альбо росту даходаў становіцца проста немагчыма. Канешне, можна павышаць мінімальны заробак, але гэта зноў прывядзе да заганнага кола эканамічнай палітыкі, якую можна назваць "беларускай пасткай".

***— У гэтай сувязі, Леанід Фёдаравіч, хацелася б ведаць, што чакае беларускую эканоміку ў 2000 годзе? Што робіцца з боку ўрада і Нацыянальнага банка, каб чарговы раз не трапіць у гэтую самую "пастку"?***

— Урадавы варыянт намечанай да выканання эканамічнай палітыкі зафіксаваны ў "Асноўных мэтах і прыярытэтах сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь у 2000 годзе". Па зместу ён адпавядае асноўнай канцэптуальнай ідэі палітыкі 1999 года. Пераважаюць устаноўкі на зніжэнне інфляцыі, стымуляванне рэальнага сектара, стабілізацыю сацыяльнай сферы, забеспячэнне інвестыцыйнай актыўнасці. Аднак нават гэтыя накірункі актывізацыі сацыяльна-эканамічнай палітыкі супярэчлівыя.

Па-першае, урад і Нацыянальны банк вызначылі ў якасці прыярытэтнай мэты стрымліванне інфляцыі. Менавіта стрымліванне, а не барацьбу з гэтай эканамічнай хваробай. Ды ці пойдзе кіраўніцтва краіны на сапраўднае абмежаванне эмісійнай палітыкі? Сумненні цалкам слушныя. Заяўленае стрымліванне інфляцыі павінна прывесці, па афіцыйнаму прагнозу, да яе ўзроўню ў 2000 годзе ў межах 160—180 працэнтаў гадавога паказчыка, альбо 4—5 працэнтаў у месяц. Уласна кажучы, так прагназавалася і ў мінулым годзе. Што адбылося, мы добра ведаем.

Ці яшчэ: па прагнозу, рэальны рост спажывання хатніх гаспадарак павінен скласці 101 працэнт. Гэта азначае, што такую колькасць тавараў мы купім у адносінах да існуючага спажывання. Між тым рост намінальных заробкаў, у параўнанні з іх цяперашняй велічынёй, намячаецца ў 2,4 раза. Зноў супярэчлівасць у планах урада: рублёў нам выдадуць у 2,5 раза больш (натуральна, перад гэтым іх надрукуюць), а купіць на іх можна будзе ўсяго на 1 працэнт больш. Нават калі не мець уяўлення аб методыцы разліку індэкса цэн, няцяжка зразумець, што на атрыманыя грошы можна набыць прыкладна тую ж колькасць тавараў і паслуг, што і ў 1999 годзе.

***— Нейкая "двайная бухгалтэрыя" атрымліваецца?***

— Калі не трайная. Па прагнозу, курс беларускага рубля 1999 года павінен быў скласці 320 тысяч рублёў за 1 долар, а да 01.07.2000 года ён будзе роўны 800 тысячам недэнамінаваных. Жаданне пахвальнае, але ўжо ў снежні 1999-га рэальны рынкавы курс перавышаў 700 тысяч BYB/USD, а ў асобныя дні студзеня дасягаў 900 дэнамінаваных рублёў (безнаяўным гандлявалі па 1 тысячы і больш за долар). Сітуацыя 1998 года паўтараецца адзін да аднаго.

***— Такім чынам, мы зноў у "пастцы"?***

— Так, наш урад нібыта дакладна аднавіў матрыцу цяперашніх паказчыкаў асноўных агрэгатных велічынь. Гэта азначае, што ВУП павялічыцца на 1—2 працэнты (не трэба спакушаць сябе), узровень рэальных грашовых даходаў складзе 101—102 працэнты, інвестыцый — 100,5—101,5 працэнта. Прамысловасць больш дынамічная — яна павінна забяспечыць 2—3 працэнты прыросту за год. Сельская гаспадарка (не могуць быць два гады запар абсалютна няўдалымі) павялічыць прагнозна свае паказчыкі на 5—6 працэнтаў. З улікам сённяшняга 10-працэнтнага спаду яна нават не вернецца на параметры 1998 года. Нічога не зробіш, сітуацыя ў аграрнай сферы не на карысць аптымістычнага прагнозу.

***— Атрымліваецца, мы самі сябе "замарожваем"?***

— Каб не стамляць шматлікімі лічбамі і данымі статыстыкі, падкрэслім самае істотнае ў эканамічным становішчы бягучага года: ён будзе не горшы за год мінулы, але і не лепшы.

***— Леанід Фёдаравіч, некалькі разважанняў пра бюджэт і манетарную палітыку ў 2000 годзе.***

— Па аптымістычнаму варыянту прагнозу ўзроўню інфляцыі 160—180 працэнтаў, праблем з напаўненнем бюджэту быць не павінна. За кошт інфляцыі ён будзе намінальна расці. Так адбываецца ва ўсіх краінах. Хочаце мець збалансаваны бюджэт і атрымаць яго прафіцыт, стымулюйце інфляцыю на ўзроўні 70 працэнтаў і вышэй. Менавіта так і атрымалася летась.

Прыкладна такая бюджэтная палітыка чакаецца ў 2000 годзе. Інфляцыйныя грошы здольныя прывесці да напаўнення бюджэту, што фармальна будзе адбывацца. Рэальнае становішча спраў з даходамі бюджэтнага сектара, фінансаваннем праграм і сацыяльнымі трансфертамі прывядуць да звыклай для нас гонкі па спіралі: цэны — індэксацыя даходаў — выдаткі — цэны. Да звычайных праблем бюджэту дабавіцца яшчэ адна — першачарговае фінансаванне вытворчасцей, заснаваных на высокіх тэхналогіях, а таксама рэальнага сектара эканомікі. Ну што ж, дзяржаўныя інвестыцыі пры наяўнасці дамінуючай дзяржаўнай уласнасці — справа звычайная для беларускай практыкі гаспадарання.

Канешне, абраны варыянт эканамічнай палітыкі ў будучым годзе трэба лічыць намінальным. Беларуская эканоміка мае свае асаблівасці і часта рэагуе на дзеянні палітыкаў больш рацыянальна, чым гэта ўяўляе сабе ўрад або кіраўніцтва Нацыянальнага банка. Праблема яшчэ і ў тым, што ў бягучым годзе парламенцкія выбары, а праз год — прэзідэнцкія. Можна зрабіць шэраг памылак і прапусціць ва ўладу вельмі многа канкурэнтаў. Палітычная сітуацыя далёка не ў апошнюю чаргу вызначае беларускую эканамічную палітыку.

Такім чынам, беларуская эканоміка прайшла пэўны этап у сваім развіцці. Наступны можа прыйсці і хутка, і не зусім хутка. Але ў адным можна быць сёння ўпэўненым: змены ў новым стагоддзі абавязкова будуць. Аднак не праз тыдзень. Гэта і ёсць самы дакладны прагноз.

***— Дзякуй, Леанід Фёдаравіч, за інтэрв'ю.***

**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

# ДЗЯКУЙ, ЛЁС, ЗА БАЛЬ, ДАРАВАНЫ ТАБОЙ



**Звар'яцелы... Так неаднойчы яго называлі сябры і калегі. У канцы 80-х, калі пакінуў і "Песняроў", і краіну. І потым, калі ў яе вярнуўся, кінуўшы стабільны і вельмі паспяховы бізнес у Амерыцы.**

**Але, здаецца, матэрыяльны дастатак яшчэ не мяжа. Асабліва для таленавітых, у каго моцны характар і хто пастаянна шукае сябе. Хаця не толькі гэтыя абставіны прымушалі Валерыя Галаўко кардынальна мяняць сваё жыццё. Яго лёс няпросты. Нават трагічны. І не кожнаму пад сілу тое, што легла на плечы гэтага чалавека, які пры тым змог не толькі захаваць чалавечыя якасці, але і дасягнуць сапраўднай духоўнай сталасці. Сведчанне таму — альбом "Споведзь", які ўразіў усіх, хто ўжо паспеў яго праслухаць. Яго песні не толькі пра каханне. Хутчэй, пра лёс, пра жыццё, пра яго вечныя каштоўнасці.**

*— Валерый, 12 год назад вы пакінулі "Песняроў", а потым і музыку. Чым вы займаліся ўвесь гэты час?*

— У 1988 годзе ў мяне нарадзілася дачка. На жаль, праз паўгода яна вельмі цяжка захварэла. Калі паўстала пытанне пра яе жыццё, я вымушаны быў пакінуць краіну, каб лячыць дачку за мяжой. Ні сваякоў, ні сяброў за межамі Савецкага Саюза ў той час я не меў, таму старт быў вельмі цяжкім. Але нічога, выкараскаўся. Да сваёй вышэйшай музычнай у Амерыцы я дабавіў эканамічную адукацыю і падчас вяртання ў Беларусь ужо быў прэзідэнтам карпарацыі.

*— Ці лічыце вы ўдалай сваю прафесійную кар'еру?*

— Мяркуйце самі. У 25 год я ўжо быў выкладчыкам класаў фартэпіяна і аранжыроўкі ў Мінскім інстытуце культуры. Дысертацыю, праўда, не абараніў. Не магу сказаць, што шкадую, але тэма была вельмі цікавай. Гаворка ішла пра комплексную рэформу музычнай адукацыі, у аснову якой быў пакладзены прынцып дыферэнцыяцыі. Нельга навучаць па адной і той жа праграме тых, хто прыйшоў у музычную школу вучыцца іграць "для сябе", не маючы ні жадання, ні патэнцыялу вучыцца далей, і студэнтаў, якія такі патэнцыял маюць. Нельга выпускаць з кансерваторый і інстытутаў культуры прафесіяналаў, якія, аддаўшы музыцы шмат гадоў, не могуць іграць без нот. У гэтым была сутнасць маёй дысертацыі.

У той час, калі я працаваў у інстытуце культуры, атрымаў запрашэнне ў ансамбль "Песняры". Наогул, мне грэх скардзіцца на лёс, нават калі мець на ўвазе тое, што не змог у поўнай меры рэалізавацца як кампазітар. У савецкі час, ды і цяпер, каб пра музыканта ведалі, трэба пастаянна з'яўляцца на тэлебачанні. Гэта ж каштавала неймаверных грошай. Не адзін год мне трэба было цалкам адкладваць сваю выкладчыцкую зарплату, каб адна мая песня адзін раз прагучала ў той самай тэлевізійнай "Ранішняй пошце". У рэшце рэшт справядлівасць у нейкім сэнсе перамагла, і мае песні папалі на Цэнтральнае тэлебачанне бясплатна. Адбылося гэта так. У 1987 годзе кожная рэспубліка здымала фільм да 70-годдзя рэвалюцыі. У нас на Беларусі выйшла карціна "Белыя крылы", а ў ёй гучала мая песня. Фільм некалькі разоў паказвалі па ЦТ. Гэта была фантастыка, я да гэтага часу не разумею, як музыка чалавека, не прынятага ўладай, трапіла ў гэты фільм.

*— У альбоме "Споведзь" з'ядналіся дзве яркія і няпростыя асобы: Валерый Галаўко і Валерый Дайнека. Вынік — надзвычайны. Ці збіраецеся вы і надалей супрацоўнічаць?*

— Ініцыятыва стварэння альбома належыць Валерыю. Гэта ён падказаў мне такім чынам выказаць мае пачуцці ад страты любімай жонкі Тамары. Ён тонкая, шматгранная натура, рамантычная і складаная. Нашы музычныя прыхільнасці, погляд на музыку ў асноўным супадаюць. Не ведаю, ці будуць у нас сумесныя праекты ў далейшым, але шчыра жадаю Валерыю рэалізаваць свой вялізны патэнцыял, які ён так скупа расходаваў у апошнія гады.

*— Мяркуючы па адказу, паміж вамі і Валерыем Дайнекам ёсць і розніца?*

— Прынята лічыць, што лепшыя ўзоры папулярнай, джазавай, рок-музыкі ствараюцца не на постсавецкай прасторы. На мой погляд, гэта цалкам можна аднесці да выканаўства і аранжыроўкі. З кампазіцыяй больш складана. Валерый, скептычна ставячыся да здольнасці суплеменнікаў самім прадуцыраваць ідэі, лічыць, што нашы кампазітары павінны запазычваць іх у заходніх калег, творча праламляючы ў сваіх работах. Я паважаю яго думку, але прытрымліваюся іншага. Па-першае, лічу, што творчасць кампазітара, які запазычвае чужыя ідэі, — другарадная. Па-другое, цалкам падзяляю думку рускага мысліцеля Івана Ільіна аб тым, што "руска-славянская душа спрадвеку і арганічна схільная да пачуцця, спачування і дабрыні", а душа заходняга чалавека больш рацыянальная. Музыка пішацца для душы, і гэта дае падставу меркаваць, што лепшы ўзор для англічаніна наўрад ці будзе такім самым для беларуса.

*— Валерый, ці з'явяцца кліпы на вашы песні?*

— Гэтае пытанне мне задаюць літаральна паўсюль. Летась, яшчэ ў маі, Уладзімір Янкоўскі пачаў падрыхтоўку да здымкаў кліпа на песню "Маці". У чэрвені з "Восеньскім дажджом" пачаў працаваць Ігар Пашкевіч. Па дамоўленасці з Ігарам Крутым для паказу ў перадачах "Добрай раніцы, краіна" і "Гарачая дзесятка", прадзюсерам якіх ён з'яўляецца, я павінен быў у верасні прывезці кліпы ў Маскву. На жаль, гэтага не адбылося. Я не прыхільнік абмеркавання асабістых праблем публічна і ў той жа час катэгарычны праціўнік замоўчвання нізасці незалежна ад таго, хто яе здзейсніў. Аднак я мяркую, што страціць імя ў маштабах краіны — гэта сур'ёзна і таму даю магчымасць гэтым людзям усвядоміць свой учынак. Менавіта ў такіх сітуацыях пачынаеш разумець, чаму адна і тая ж з'ява ў амерыканцаў называецца "амерыканскай марай", а ў нас — "з гразі — у князі". Тым не менш, я абсалютна ўпэўнены, што ў рэшце рэшт усё будзе добра не толькі з кліпамі, але і з альбомам.

Жадаю ўсім чытачам удачы. Давайце ўсе разам вывучаць правілы жыцця і прытрымлівацца іх. Гэта адзіны шлях да здароўя і шчасця. Напрыканцы дазвольце нагадаць вечную ісціну Канфуцыя: "Людзі баяцца беднасці і вядомасці; калі таго і другога нельга пазбегнуць, не страціўшы гонару, належыць іх прыняць".

**Анжэла ГРЭКАВА**

**З КНІГАЗБОРУ Мікалая УЛАШЧЫКА**

**● Аляксей КАЎКА.**

# ГІСТОРЫК І ЛІРЫК

Прыватныя бібліятэкі беларускіх дзеячаў — узнёслая, у нечым загадкавая тэма нашага нацыянальнага ўзыходжання. Кнігазборы Браніслава Эпімах-Шыпілы, Вацлава Ластоўскага, Янкі Купалы, Кастуся Езавітава, Адама Станкевіча — наколькі ж яркія, іншы раз драматычныя, а то і трагічныя старонкі ў летапісе беларускай культуры.

Вось і хатняя бібліятэка Міколы Улашчыка — ужо таксама гісторыя.

Была яна даволі багатай, на свой лад унікальнай. Сярод навуковае літаратуры па гісторыі, фальклору, этнаграфіі, культуралогіі прадстаўніча выглядала беларусазнаўчая частка — агулам за добрых дзве тысячы адзінак. Былі тут і свае рэдкія, каштоўныя кнігі — прыкладам, славуты "беларускі" том "Живописной России" П. Сямёнава, прыжыццёвыя выданні М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага, А. Луцкевіча (А. Навіны), А. Смоліча, працы па статуту Вялікага княства Літоўскага, уключна з публікацыяй помніка, І. Лапы, паасобныя серыйныя выпускі Інбелкульта. З непрыхаваным пачуццём гонару за свае кніжныя набыткі, а яшчэ мабыць больш — за нашыя спадчынна-духоўныя скарбы не раз паказваў ён сваім гасцям важкі, фацэтны з выгляду том "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" В. Ластоўскага, набыты ім, дарэчы, у ковенскім антыкварыяце неўзабаве пасля вайны, падчас навуковае, тады яшчэ "аспіранцкае" камандзіроўкі ў архівы Літвы.

З сучасных беларускіх навуковых выданняў, прынамсі з найбольш значных, многія былі падпісаны яму самімі аўтарамі — гісторыкамі, археолагамі Л. Абэцэдарскім, К. Шабуняй, А. Грыцкевічам, В. Грыцкевічам, М. Ткачовым, Г. Штыхавым, Г. Каханоўскім, фалькларыстамі, моваведамі, літаратуразнаўцамі Л. Барагам, Ф. Янкоўскім, С. Александровічам, А. Лісам, Г. Кісялёвым, У. Калеснікам, У. Конанам, А. Мальдзісам, Ю. Пшырковым, В. Чамярыцкім, іншымі.

Асобнымі радкамі варта вылучыць дароўны надпіс на кнізе І. Сімаaccount оўскага, знанага падзвіжніка беларускае бібліятэчнае справы, пад чулаю апекай якога прайшлі першыя працоўныя універсітэты маладога Улашчыка ў Нацыянальнай (былой Дзяржаўнай) бібліятэцы краіны (цытуем у арыгінале): "Николаю Николаевичу Улащику. В качестве бывшего начальника, который первым радовался пристрастию своего сотрудника к белорусской печати и его росту и сейчас далеко опередившего своего наставника. С уважением, любовью и наилучшими пожеланиями. И. Симановскай: 8.V.1966" (на яго кн. "Белорусская советская библиография").

Прыкметнае месца на кніжных паліцах маскоўскага беларуса займала айчынная мастацкая літаратура (зразумела, не бракавала і замежнае — мнагатомнае выданне Г. Сянкевіча ў арыгінале і г. д.) — непасрэдная тэма нашых разважанняў. Найперш гэта творы беларускае класікі: Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага. З сучасных вылучаліся тамы Івана Мележа, творчасць якога асабліва ўражвала гісторыка суровым, непрыпудраным рэалізмам, жывапісным народным, у непаўторнай палескай "апраўе" каларытам. Пэўна, Улашчыкава захапленне ў даным выпадку ўзмацнялася яго асабістым досведам, набытым яшчэ ў маладосці падчас студэнцка-краязнаўчых вандровак па Палессі (Мазыршчына, Тураўшчына). Высока прыязнае нераўнадушша да аўтара "Людзей на балоце", "Подыху навальніцы" Улашчык, як вядома, бліскуча прадэманстраваў на мележаўскім юбілейным вечары ў Доме літаратара, калі пад усеагульнае захапленне прысутных адарыў юбіляра жанрава нечаканым, па-мастацку жывапісным "Виншованнем писара Миколая". "Вясёлае ажыўленне ў зале, — паведамляў у рэпартажы карэспандэнт "Літаратуры і мастацтва" (1971, 12 лютага), — выклікала прывітальнае слова, якім вітаў І. Мележа доктар гістарычных навук, супрацоўнік Інстытута гісторыі АН СССР М. Улашчык. Выдатны знаўца гісторыі і культуры роднага народа, ён сваё прывітанне сказаў на старабеларускай мове, на мове старажытных летапісаў і Статута літоўскага". Узаемнае прыцягненне гэтых дзвюх адметных, а ў нечым роднасных творчых вяршыняў нашае культуры пасведчана іх узаемным ліставаннем, а таксама мележаўскім аўтографам на падараванай Улашчыку сваёй кнізе, у якой яго навуковы плён узважаны на шалях векавечнае культуровае традыцыі ад Кірылы Тураўскага, Сімяона Полацкага да нашых дзён.

У пісьменніцкім (як і мастакоўскім) асяроддзі суродзіч з Масквы быў постаццю не проста знанай і шанаванай, але па-чалавечаму даволі прыцягальнай, заўжды адкрытай бліжэйшаму таварышаванню, пра што нам ужо даводзілася пісаць. Відавочна, прыцягальнасць гэтая сілкавалася найперш грунтоўнымі, наватарскімі працамі навукоўца па праблемах аграрнай гісторыі, археаграфіі, крыніцазнаўству мінулага Беларусі, яго падзвіжніцтвам у публікацыі і даследаванні беларуска-літоўскіх летапісаў. Прывáрожвала, натуральна, энцыклапедычнасць Улашчыкавага інтэлекту, знешне не кідкага, без якой-кольвечы позы. Варта ўзяць пад увагу і прытоены драматызм яго жыццёвага, выгнанніцкага лёсу, перажытых ім жорсткіх "гулагаўскіх" выпрабаванняў за свой беларускі патрыятызм, за мажлівасць здзейсніць сваё пакліканне перад беларускай навукай, культурай.

Прыцягвалі і сціслыя літаратурныя якасці гісторыка — у адной асобе і ўдумлівага, дакладнага аналітыка фактаў, падзей мінулага, і займальнага апавядальніка, калі трэба — партрэтыста, там, дзе гаворка заходзіла пра канкрэтныя гістарычныя постаці. Акурат гэтую мастацка-выяўленчую рысу ва Улашчыкавай даследчыцкай манеры трапна прыкмеціў В. Быкаў. Адгукаючыся з удзячнасцю на яго нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству, пісьменнік пісаў з Гродна ў Маскву: "Асабліва мне спадабаліся замалёўкі Віленскай археаграфічнай камісіі. Здавалася б, вузка спецыяльная кніга, а чытаецца лепш за іншы раман. Дзякуй Вам". Тады ж, мабыць, аўтар "Сотнікава", "Абеліска" даслаў гісторыку свой зборнік з абедзвюма аповесцямі і вымоўным аўтографам: "Мікалаю Мікалаевічу Улашчыку, вучонаму, чалавеку, беларусу з павагай і шанаваннем. Васіль Быкаў.. 13 ліст[апада] [19]73 г."

Спрыялі, нарэшце, літаратурным кантактам Улашчыка і яго рэгулярныя паездкі падчас водпуску з жонкай Наталляй Маркаўнай у Каралішчавічы — вядомыя колісь творчыя Пенаты беларускіх парнаснікаў. Звычайна сустракалі тут гасцей з Масквы гасцінна і прыязна. Як, прыкладам, у гэтым вось лірычным экспромце Міколы Аўрамчыка, Ніла Гілевіча, прысвечаным Улашчыкавай пары (падаем фрагмент):

Няхай лясная гэта казка
Прыходзіць часта ў вашы сны.
І прыязджайце, калі ласка,
У гэты слаўны кут лясны...

*13 лютага 1971 г. Каралішчавічы.*
*(Аўтограф Н. Гілевіча).*

Стрыманая, эпічна засяроджаная развага празаіка з тае самае, "Улашчыкавае" нагоды нібы ўзбуйняе папярэдні паэтычны малюнак, прызямляе і ўдакладняе вобраз: "Такіх людзей няшмат. І зусім нячаста надарыцца выпадак з імі сустрэцца. Гасцюючы ў Каралішчавіцкім доме пісьменнікаў, я пачуў, як літаратары ўспаміналі яго прозвішча або прыводзілі яго аўтарытэтнае меркаванне вельмі дасведчанага чалавека: "Улашчык казаў... На думку Улашчыка... Улашчык лічыць, што..." — пасля такіх слоў нельга было прапусціць момант, каб не пазнаёміцца з ім".

Верагодна, што тут, сярод ляснОе цішы, густа атуленай кашлатымі хваінамі і задумлівымі бярозамі, атрымаў Мікалай Мікалаевіч у падарунак і гэтую незвычайную кніжачку пад сімвалічнай, узрушлівай назвай "Зорка Венера" (Мн., 1972), разам з аўтографамі многіх прадстаўленых у ёй рупліўцаў апалонавае нівы. Ды якія імёны-подпісы! Абок з даных ужо Аўрамчыка, Гілевіча прыхільнасць да Улашчыкавае постаці пасведчылі (калі трымацца алфавіта) Рыгор Барадулін, Алесь Бачыла, Генадзь Бураўкін, Васіль Вітка, Анатоль Вялюгін, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Вольга Іпатава, Уладзімір Караткевіч, Аркадзь Куляшоў, Еўдакія Лось, Максім Лужанін, Алесь Наўроцкі, Сяргей Панізнік, Максім Танк,.. — больш за сорак паэтаў-падпісантаў. Пэўна ў гэтым букеце славутых іменаў мог бы красавацца і аўтограф Ларысы Геніюш, калі б яе і Улашчыкавы сцежкі крыжаваліся ў каралішчавіцкім зацішку. Тым не менш і творы паэткі, адасланыя з Зэльвы ў Маскву, таксама знаходзіліся ў коле Улашчыкавага чытання. Як і зборнічкі лірычных мініяцюр паэта ў прозе Янкі Брыля, з якім Улашчыка таксама лучыла ўзаемная творчая шчырасць.

Калісь абылганы, выгнаны з Беларусі, цяпер ён вяртаўся на Бацькаўшчыну, адораны прызнаннем і пашанай яе лепшых сыноў і дачок. Акрылены таемным свяцельцам ці не тае самае далёкае недасяжнае зоркі, якая глухою восенню 1942 года вязню-пакутніку златавускае турмы скіравала з-пад нябесных высяў ратаўнічы сігнал.

Застаецца, пад завяршэнне, дадаць: спомнены вышэй зборнічак беларускай лірыкі кахання разам з іншымі падарункавымі выданнямі Улашчыкавага кнігазбору яго сын Аляксандр Улашчык пераказаў нядаўна на захаванне ў Цэнтральную навуковую бібліятэку імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.



# ШТО ЁСЦЬ БОГ,

## або ЯК Я СПАСЦІГАЎ ІСЦІНЫ

Што ёсць Бог — на гэтае пытанне няма і не можа быць нейкага пэўнага адказу. Ён адкрываецца нам, калі мы яго адкрываем. Ён прымае нас, але можа і адрынуць нас. На тое ягоная Воля. У маленстве мая бабуля вучыла мяне: "Божанька добры, міласцівы, але Ён і карае... Ты думаеш, каго? Такіх неслухаў, як ты". Калі што з майго боку было не так, пужала мяне Богам: пачакай, так табе не пройдзе, Божанька пакарае цябе. Незадаволеная маімі паводзінамі, злосная, у дадатак абзывала мяне чамусьці "дэмакратам". Адсюль у маім уяўленні Бог быў Асобай, якая любіць цябе, але можа і пакараць. На языку ў маёй бабулі было часта "Гасподняя кара".

Дык усё такі, што ёсць Бог?

Бог ёсць, калі ў нас ёсць упэўненасць, што ёсць Бог. Няма ўпэўненасці, няма і Бога. Няма веры, няма і Бога. Калі ў нас саміх няма Бога, Яго нідзе няма. Значыцца, Бог ёсць тое, што ёсць у нас саміх. І Бога адкрывае кожны пасвойму, калі адкрывае наогул.

неяк трымаўся. А ўгледзеў — у мяне ўжо была гатовая пастанова: ніколі, ні за што. Пасажыры ўзнімаюцца па лесвіцы на самалёт, быццам на Галгофу. Натоўп напірае на мяне, я дайшоў да лесвіцы: ступіць ці не ступіць на яе? Не, ні за што. Гэта не для мяне.

Не паляцеў. Вярнуўся дахаты, на вялікае здзіўленне маіх сямейнікаў.

Што тут было? Боязь загінуць? Страх апынуцца замкнутым, заціснутым у д'ябальскім уладжанні? У Новым запавеце сказана, што ёсць страх чалавечы і страх Божы, і ў аснове страху ляжыць сапраўднае рэлігійнае пачуццё. Што было ў маім выпадку, не ведаю.

Аднак адкруціцца ад самалёта я ўсё такі не мог, калі займеў працу ў Германіі. Мая кампанія аплачвала толькі самалётнае падарожжа, як больш таннае за параходнае. Мая даведка ад доктара, што з-за хворага сэрца я не магу ляцець, не выручыла мяне: хоцькі ці не хоцькі я быў змушаны сесці ў самалёт. Але якая гэта бы-

церплівы, але гэта не значыць, што Ён можа цярпець бясконца. Дык ты мусіш мець гэта на ўвазе. Прыйдзе часіна, калі за ўсе нашыя правіны трэба будзе расплачвацца. Але я цябе не пужаю. Я табе ўжо казала, што Бог і міласцівы, што, калі ты будзеш маліцца Богу шчыра, моцна, усёй душой — а ад Бога нічога не схаваеш, Ён пазнае, ці шчыра ты молішся, — будзеш прасіць Яго ў нечым табе дапамагчы, твая просьба можа спаўніцца. Але, кажу, трэба маліцца так, каб тваю малітву Бог пачуў, у Бога трэба вымаліць тое, што просіш.

Раскажу тут пра тое, як я "вымаліў" у Бога Амерыку.

Я ўжо прайшоў усе амерыканскія камісіі і падкамісіі і, седзячы ў лагеры для перамешчаных асобаў у Бакнангу (Вюртэмбергія), чакаў выкліку з Людвігсбурга, дзе павінен быў прайсці яшчэ адну, канчатковую праверку, ад якой залежала дапусціць мяне ў Амерыку ці не. Але з Людвігсбурга выкліку

**Масей СЯДНЕЎ**

Прыгадваецца мне тут маё калымскае "адкрыццё" Бога.

З якуцкай юрты на лесанарыхтоўках мяне бралі на этап: выклікаў менскі НКУС на новае следства. Канвою над намі не было — куды адсюль уцячэш? — і брыгадзір сказаў мне: "Ідзі сам, без канвою да саўгаса "Калымскі", а адтуль цябе ўжо пад канвоем даставяць у Магадан. Спадзяюся, не заблудзіш". А да таго саўгаса было ні менш, ні больш 25 кіламетраў. Прытым дарогі ніякай, і я баяўся, што не дайду, заблуджу. Аж не верылася мне, што за чатыры гады падканвойнага жыцця я іду без канвою, адзін, свабодны.. Сапраўды, было нат жудасна. Але радасць, што мяне выклікаюць, што вяртаюся ў Беларусь, у Менск, гнала мяне. Я не йшоў, а ляцеў, як на крылах: можа наперадзе мяне чакае свабода, воля. Колькі часу йшоў, не ведаю, ажно бачу наперадзе юрту і каля яе — чалавека з ружжом на плячы. Уласна, я не паспеў яшчэ яго ўспрыняць, як працяў мяне, быццам ток, ні то мой уласны, ні то чый голас: "Не бойся. Ідзі!". І я іду на чалавека з ружжом. Той знімае з пляча ружжо і сустракае мяне з нацэленай на мяне руляй. "Стой", — загадаў. Аглядае мяне. "Пайшлі!", — скамандаваў. Гоніць мяне з ружжом напагатове. Куды? Ды ва мне той самы голас: "Не бойся!" Чалавек з ружжом загадвае: "Стоп! Ты з якога лагера ўцёк? Так, уцёк? Але ад мяне ты не ўцячэш. Я заведу цябе ў той лагер, адкуль ты ўцёк. Я зараблю на табе. У мяне дзеці галодныя". Потым: "У цябе ёсць закурыць?" Пачалася гаворка. Чалавек з ружжом быў якутам. За кожнага злоўленага ўцекача ён атрымліваў узнагароду. Я гавару яму: "За мяне ты нічога не атрымаеш — я адпушчаны". Якут угледзеўся ў мой твар, зірнуў у вочы і быццам са шкадаваннем прамовіў: "Тваё аблічча не хлусіць мне". Узяў за рулю сваё ружжо і змаху ўдарыў ім аб сасну побач. Зброя ўпала на зямлю зломанай. "Ідзі, куды ішоў".

І я пайшоў. У сэрцы сваім усю дарогу я нёс якута.

...Я ніколі ў сваім жыцці не карыстаўся самалётам — баяўся, дый не было патрэбы, маё жыццё да пэўнага часу было аселым. Але надышоў час, калі я мусіў ляцець. Універсітэт у Мізулі (штат Мантана) выклікаў мяне на інтэрв'ю, і ў мяне не было іншага выйсця, як толькі звярнуцца да паслуг самалёта. Жонка й дзеці ўгаварылі мяне, і я еду на аэрадром у Індэнапаліс. Праходжу патрэбную апрацоўку. Пачалі выпускаць пасажыраў на пасадку. Калі я яшчэ не бачыў самалёта, я

ла пакута! У гэтай пакуце я й "адкрыў", угледзеў Бога.

З Мюнхена лячу ў Нью-Йорк. Здзівіла мяне непамерна вялікая колькасць пасажыраў на мой самалёт, і гэта ўжо адно насцярожыла: як можа самалёт узяць такую колькасць людзей, падняць іх? Наіўна, скажаце. Але я стаўляў пад пытанне разумнасць гэтага прадпрыемства. Чакаем узлёту. Я ўвесь у неймаверным напружанні — ці ўзляцім? Жонка нешта хоча сказаць мне, але я прашу яе, каб маўчала, думаў, гаворка можа пашкодзіць узлёту і маёй засяроджанасці. Абуралі дзеці, што ўсё не спыняці сваіх гульняў. Я хацеў, каб у гэты момант панавала поўная, боская цішыня, паколькі гэта тая часіна, калі мае **вырашыцца** ўсё. Самалёт набірае разгон для ўзлёту. Я стаіў дыханне. Малюся за сябе і за лётчыка, каб ён не зрабіў якой памылкі. Ды нечакана паведамляюць: самалёт не набраў патрэбнай хуткасці для ўзлёту і мусіць рабіць другі заход. Я некуды праваліўся, мяне не было. Ачнуўся, калі адчуў плаўны ўзлёт самалёта. Пасажыры, прыціхшы было, ажывіліся, узнавілася мітусня, што выклікала ў мяне незадаволенне, нават злосць: як гэтыя грамадзяне не разумеюць, не маюць Божага страху, калі мы ўжо ў паднябессі, у іншым вымярэнні. Пройдзе хто ў ботах цяжкой хадой міма, баюся: гэта ж можа адбіцца на раўнавазе самалёта. Замыкаюся ў сабе. Заплюшчваю вочы і бачу наперадзе нашага самалёта Багародзіцу, такой, як Яна ў нас на іконцы, толькі куды прыгажэйшая, а за Ёю на нейкай адлегласці Сам Бог, вядуць наш самалёт, паказваюць яму шлях. Я спакойны. Яны асцерагаюць наш самалёт ад небяспекі. Нат калі йдзе самалёт на спад, крэхча, ведаю, самалёт не ўпадзе, ён на боскіх хвалях. У Бога нічога не падае. Трымаецца ў Божым суладдзі. А адплюшчу вочы — Багародзіца і Бог знікаюць з небасхілу. Я ўжо ў самалёце: тыя самыя пасажыры, тое самае ўсё. Рэальнасць. Заплюшчваю вочы зноў: бачу ў паднябессі зноў Багародзіцу і самога Бога. Багародзіца ўся ў святліні, радасная, Бог у нейкай хмурасці, вядуць быццам на сваіх дапонях, наш самалёт. І я, здаецца, не лячу, а мякка плыву пад боскай аховай. Жонка побач маўчыць, ведае: выклікаць мяне на гаворку немагчыма.

І гэтак да самага Нью-Йорка. Пілоту ўдаецца мяккая пасадка. Мы ўжо на зямлі. Вобраз Багародзіцы і Бога зніклі ў паднябессі. Але яшчэ доўга буду бачыць іх у сваёй уяве.

Бабця вучыла мяне: Бог доўга-

ўсё не было, замест выкліку — паведамленне: усе мае дакументы, уся мая справа прапала, украдзена, і просьба як найхутчэй запоўніць нанава патрэбныя бланкі і спешна адаслаць іх у Людвігсбург. Нашыя лагерныя сакратаркі не марудзілі, зрабілі ўсё, што вымагалася, і адаслалі. І от я ў Людвігсбургу, у апошняй інстанцыі, дзе галоўны нейкі начальнік мусіць паставіць толькі свой подпіс на маіх паперах. Падпіша, значыць еду ў Амерыку, не падпіша — будзе бяда. Строгі галоўны начальнік гартае мае паперы. Я перад ім за сталом. І ён раптам: "Год нараджэння? У адным месцы ў вас 1913, у іншым — 1915". Я ў разгубленасці, у перапалоху, я не заўважыў, калі запаўнялі бланкі, разбежкі ў даце майго нараджэння, не заўважыў памылкі. Начальнік не падпісвае маіх папераў, кідае іх мне на рукі і выходзіць на калідор. Я ўслед. Начальнік супыніўся. На руках у мяне паперы і капялюш. Высокі, глядзіць на мяне з гэтымі рэчамі зверху ўніз, а я, выпростваючыся перад ім у сваёй просьбе, гляджу яму ў вочы — прашу, малю. Нешта адбылося ў ім ў гэты момант. Ён бярэ паперы з маіх рук і, стоячы, прыкладвае іх да сцяны, дастае аловак і пытаецца, дык якая з гэтых датаў нараджэння правільная. Я адказаў. І ён ставіць свой подпіс — я еду ў Амерыку.

Закончу гэту гутарку роляй пачуццёвасці ў пазнанні Бога, роляй мастацкай літаратуры ў спасціжэнні боскага. У мае школьныя гады найбольшы ўплыў на мяне рабіла творчасць Якуба Коласа, асабліва ягоны "Сымон-музыка". Лёс Сымона выклікаў у мяне найглыбейшыя пачуцці спачування яму. Не мог устрымацца ад слёз, чытаючы, як ён пакідаў хату, бацькоў, адчуваў сябе выгнаным. Ягоная доля мастака кранала маё сэрца. Я ведаў на памяць цэлыя раздзелы з паэмы Якуба Коласа. У шматгалосым аркестры беларускай літаратуры творчасці Янкі Купалы адзін крытык адводзіў ролю бубна, творчасці Якуба Коласа — ролю скрыпкі. Сэрца маё найбольш кранала скрыпка. Між іншым у Новым запавеце сказана, што сэрца — гэта месца, дзе чалавек сустракае Бога. На габрэйскай мове сэрца азначае "ўнутраную сутнасць" чалавека. Я хачу сказаць, што эстэтычнае выхаванне, а ў ім — мастацкая літаратура ўдасканальваюць нас пачуццёва, бо найперш праз пачуцці мы пазнаём Бога. У філасофіі сенсуалізму ёсць такое палажэнне: нічога няма ў нашай свядомасці, чаго б не было раней у нашых пачуццях.

*1999, Глен Коў, ЗША.*

**ПРЭМ'ЕРЫ**



У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі на вечары сучаснай харэаграфіі гледачы ўбачылі адразу дзве неардынарныя прэм'еры. У першым аддзяленні быў паказаны аднаактовы балет "Свет не заканчваецца каля дзвярэй дома", прысвечаны памяці заслужанага артыста Беларусі Аляксандра Смалянскага, які больш за дваццаць гадоў самазабыўна служыў балету і разам з Валянцінам Елізар'евым стаяў ля вытокаў стварэння сучаснай нацыянальнай харэаграфічнай школы.

У гэтым камерным спектаклі на музыку французскага кампазітара XVI стагоддзя Жаскена Дэпрэ і аўстрыйскага кампазітара пачатку XX стагоддзя Густава Малера задзейнічаны ўсяго два выканаўцы — Юлія Дзятко і Канстанцін Кузняцоў — салісты балета Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі. Яны чарговы раз даказалі, што вядучымі артыстамі балета іх называюць па праву. На гэтую ж пару легла асноўная нагрузка і ў другой прэм'ернай харэаграфічнай кампазіцыі "Куды ідзеш?" на музыку Соф'і Губайдулінай. Гэта работа прынесла балетмайстру Раду Паклітару першае месца на міжнародным фестывалі "Свет музыкі", які праходзіў у Італіі. Беларускія ж гледачы ўбачылі кампазіцыю ўпершыню.

Была ў гэтага вечара яшчэ адна асаблівасць: яго праграма цалкам складалася з работ нядаўніх выпускнікоў кафедры харэаграфіі Беларускай акадэміі музыкі, якія вучыліся ў класе прафесара Валянціна Елізар'ева. У тым ліку — Аксана Сямёнава, Вольга Рэпіна, Наталля Фурман. Разам з імі слухаў урокі майстра і Раду Паклітару. Акрамя Канстанціна Кузняцова і Юліі Дзятко ажыццявіць творчыя ідэі на сцэне тэатра музычнай камедыі ў гэты вечар дапамаглі артысты балета Дзіяна Стацура, Віталь Краснаглазаў, Ігар Ханцэвіч, Аляксандр Рулькевіч, а таксама навучэнцы Беларускага харэаграфічнага каледжа.

НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля "Свет не заканчваецца каля дзвярэй дома".

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**



**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

**ЛІТАРАТУРНЫЯ СУСТРЭЧЫ.** У Віцебску (горад-пабрацім Даўгаўпілса) прайшлі беларуска-латвійскія літаратурныя сустрэчы, прысвечаныя Дню Незалежнасці Латвіі і 100-годдзю з дня смерці маці Райніса, у якіх прымалі ўдзел даўгаўпілскія паэты Станіслаў Валодзька і Фаіна Осіна. Разам са старшынёй таварыства дружбы "Беларусь — Латвія" паэтам Сяргеем Панізнікам і віцебскімі літаратарамі Давідам Сімановічам, Анатолем Канапелькам і Францам Сіўко яны пабывалі ў Віцебскім педагагічным універсітэце імя П. Машэрава, дзе выступілі перад вялікай аўдыторыяй студэнтаў і выкладчыкаў.

Затым С. Валодзька і Ф. Осіна мелі слова на юбілейным вечары паэта Анатоля Канапелькі.

А на наступны дзень даўгаўпілскія паэты ўдзельнічалі ў адкрыцці выставы ў Літаратурным музеі "Памяці Райніса і Маці", дзе чыталі свае вершы. Фальклорны ансамбль "Ростань" выступіў з кампазіцыяй "Русалкі". Сярод прысутных знаходзіўся Генеральны консул Генеральнага консульства Латвіі ў Віцебску Арманд Крузэ. Затым разам яны наведалі помнік маці Райніса Д. Пліекшанэ на лютэранскіх могілках.

**Валерый САМАХВАЛАЎ.**
г. Даўгаўпілс.

КОНКУРСЫ




# ШЧАСЦЕ — ГЭТА НЕДАЛЁКА
## АД «ВАЛЬСА НАДЗЕІ» І «ШАЛЁНЫХ БАРХАНАЎ”

● Алена СПАСЮК.

“Мадэль года-2000” — пад такой назвай прайшоў у Мінску конкурс-фестываль моды, у якім удзельнічалі прадпрыемствы бытавога абслугоўвання горада. Такія мерапрыемствы былі ўжо наладжаны ў некаторых беларускіх гарадах. Пераможцы возьмуць удзел у рэспубліканскім спаборніцтве мастакоў-мадэльераў.

У мінскім конкурсе прапаноўваліся калекцыі ў намінацыях “Камфорт”, “Кар’ера”, “Адпачынак і забавы”, “Без межаў”, “Асобы выпадак”. Конкурс “Мадэль года-2000” праходзіў у Беларускім дзяржаўным цырку. Гледачы ўбачылі прыгожае шоу, у якім удзельнічалі не толькі манекеншчыцы, але і цыркавыя артысты.

Што ёсць мода, што ёсць прыгажосць? На гэтыя пытанні кожны мастак-мадэльер адказаў сваімі працамі. Нехта з іх выкарыстоўваў усходнія матывы, апранаў жанчын у прыгожыя стыльныя белыя адзенні і закрываў твар да вачэй (“Шалёныя барханы”). Хтосьці імкнуўся на Захад і ствараў вобраз на тэму надакучлівай лялькі “Барбі” (такая ж назва калекцыі). Былі прадстаўлены на паказе шыкоўныя трыкатажныя вырабы фірмы “Белвестпрам” з загадкавай назвай “Уканіна”.

Пошук новых ідэй і вобразаў, жаданне ўпрыгожыць жыццё — асноўная мэта мадэльераў. Гэта вельмі складана, асабліва, калі гаворка ідзе не пра элітарныя Дамы мадэлей, а пра звычайныя прадпрыемствы бытавога абслугоўвання. Каб тварыць, неабходна шмат ездзіць, бачыць, параўноўваць, выпрацоўваць і развіваць густ. Патрэбны грошы і на калекцыю: тканіну, пашыў, аплату працы манекеншчыкаў. Калі сродкаў не хапае, атрымліваецца, што два розныя мастакі выкарыстоўваюць для сваіх вырабаў адну тканіну (нават колер). І робіцца сумна. Але заўсёды ёсць людзі, якім усміхаецца лёс і якім удаецца нешта незвычайнае ў самых неспрыяльных умовах. І заўсёды знойдуцца тыя, хто ацэніць іхнія намаганні (цырк, дарэчы, быў перапоўнены гледачамі). Таму што мода і жаданне зрабіць прыгажэйшым свет і сябе ідуць побач. Вядома, што жанчына (думаецца, і мужчына таксама), якая задаволена сваёй знешнасцю і вопраткай, трошкі шчаслівейшая за тую, якой вышэйназванае не падабаецца. Можа, і існуе мода, прыгожае адзенне, працуюць мастакі-мадэльеры, каб мы ўсе былі больш радаснымі, больш шчаслівымі.

Ва ўсякім разе, калекцыя “Вальс надзеі” (вясельнае адзенне), лепшая ў намінацыі “Асобы выпадак”, менавіта для гэтага і створана. Белая сукенка нявесты — акрамя чысціні, сімвал надзеі. Іншымі пераможцамі сталі: у намінацыі “Кар’ера” — калекцыя “А чаму б не” (экстравагантная вопратка для офіса), у намінацыі “Камфорт” — “Факстрот”, “Без межаў” — “Шалёныя барханы”, “Адпачынак і забавы” — “Уканіна”.







НА ЗДЫМКАХ: узнагароды лепшым мастакам; адна з самых прывабных манекеншчыц паказу; журы конкурсу, якое ўзначальваў Уладзімір БУЛГАКАЎ, а вядомы мастак-мадэльер Саша ВАРЛАМАЎ (першы справа) быў адным з суддзяў; разам — класіка і экстравагантнасць.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# ЦУД КАХАННЯ

### ЭЦЮД

Ён быў юрыст, яна журналістка.

Яны дагэтуль не сустракаліся і не толькі не ведалі, але і не бачылі адзін аднаго, хаця вучыліся ў адным горадзе, адным універсітэце і нават, бывала, сядзелі на адной і той жа лекцыі.

Лекцыі чытаў знакаміты прафесар, запрошаны рэктаратам з вялікага акадэмічнага навуковага цэнтра, адкуль вучоны ехаў цягніком ледзь не суткі. Прафесар даражыў часам і вельмі спяшаўся: стараўся за кароткую акадэмічную гадзіну выплюхнуць на бедную аўдыторыю максімум філасофскай глыбакадумнасці, не шкадуючы сябе і змучваючы студэнтаў да пацямнення ў вачах.

І ўсё роўна навучальны працэс даваў збоі. Тады разумныя універсітэцкія галовы ўхапіліся за кінутую некім прапанову: хай філасофскае свяціла чытае свой курс адразу ўсім гуманітарным факультэтам. Для лекцый наймалі клуб харчавікоў, адзін з самых вялікіх у горадзе, куды, апрача студэнтаў, набівалася плойма пабочнага люду, які не столькі цікавіўся, бо не разумеў, пра што тут кажуць, колькі вытарэшчваў вочы на незвычайнага выкладчыка-разумніка. Народ дзівіўся: гаворыць чалавек быццам на роднай мове, а што тут да чаго — суцэльная цемра. І ўсё ж прыходзілі, слухалі. Для паслярэвалюцыйнай народнай масы гэта было ў навіну — паслухаць, што кажуць адукаваныя людзі.

Дык дзе ж ты каго ў такой таўкучцы заўважыш? Аднак ім, відаць, было наканавана ўбачыць адно аднаго. Гэта здарылася раптам. Погляды сустрэліся, і іх было ўжо не адвесці. Самі ж яны, пакуль яшчэ розум не ачуняў ад філасофскага гіпнозу, не маглі ніяк усвядоміць, што вочы ўжо дамовіліся пра сустрэчу.

Яны не здзівіліся, калі адначасова падышлі да выхаду і загаманілі, як старыя знаёмыя. І зусім не пра філасофію.

Яны доўга хадзілі па вуліцах, пакуль не заўважылі, што амаль нікога, акрамя іх саміх, не відаць. На ўсходзе пачало днець, а яны ўсё не маглі нагаварыцца.

Так прыйшло каханне. Моцнае і безагляднае.

Яны ажаніліся і праз гады заставаліся закаханымі. Нават калі здарылася здрада... Але пасля кароткай сваркі іх каханне разгарэлася з новай сілай.

Яны разумелі: іх каханне — іх лёс. Яны тлумачылі кожны сабе і адно аднаму: у жыцці надараецца ўсякае. І мімалётныя памылкі не ўспрымалі як канец шчаслівага жыцця. Яны прывыклі дараваць, бо чалавеку ўласціва памыляцца. Тое ведалі яшчэ старажытныя рымляне.

Нарадзілі яны двух сыноў і любілі іх бацькоўскай любоўю. Кожны па-свойму.

— У цябе пракурорскі нораў, — мякка наракала яна, — гэтае ўжо тваё спартанскае выхаванне... Дзеці ласкі не ведаюць.

— Што рабіць, — адгаворваўся ён, — такі ўжо я. А мужыкі ўсё ж мусяць быць мужыкамі. Зрэшты, у цябе сентыментальнасці зашмат, мая ўжо залішняй будзе.

Ішло жыццё. Здараліся нягоды, але ўвогуле ў сям’і панавалі мір і згода. Праўда, усё даўжэйшымі рабіліся прамежкі паміж яе, раней штодзённымі, пытаннямі:

— Ты мяне кахаеш?.. Ёй патрабаваўся гучны адказ, і ён разумеў, што ў ёй жыве надзённая патрэба чуць ягонае: “Так... Вядома...”

Або атрымаць шчыры цёплы пацалунак. І абавязкова ў вусны.

Кахалі яны сапраўды адно аднаго па-ранейшаму? Пэўна, кахалі. Гэта не было страснае юнацкае каханне, калі толькі адно пытанне: ці кахаеш ты? — кідала іх у абдымкі. Гэта была цесная звязка, шматгадовае зліццё душ, спакойнае, роўнае гарэнне, якое выпраменьвала мяккае цяпло, без чаго жыццё абодвух ужо не ўяўлялася, страціла б сэнс.

Ягоны характар, цвёрды, мулкі, у многім прадыктаваны прафесіяй, к канцу службы ва ўстановах правасуддзя неяк усё больш закліньваўся на ўсемагутнасці юстыцыі. Служэнне Богу, татэму законнасці сталася для яго рэлігіяй, і нават выхад на пенсію ніяк не паўплываў на ягонае жыццё і лад мыслення.

Ён быў нязменна ранейшы, нешматслоўны, рашучы, што, мабыць, не зусім характэрна ў старасці. Бо старасць, трэба сказаць, абавязкова штурхае чалавека ці то да зацятай упартасці, ці то да празмернай уступлівасці.

Ягоная ж воля заўсёды падпарадкоўвалася спакойнай сіле розуму, які не здраджваў яму і ў пажылым веку.

І тут здарылася тое, што не магло не здарыцца ў шаноўным узросце. Яму зрабілася кепска. Зусім кепска.

Яна была ў роспачы.

— Ну што, любая, — нечакана і да незвычайнасці мякка сказаў ён ёй. — Усяго хапіла ў жыцці: і шчасця, і бяды. Пара прыйшла развітвацца. Ніхто не жыве вечна... Ты больш патрэбная нашым дзецям, нашым унукам. І лепш, што адыходжу першым я.

Яна замахала на яго:

— Не, не... Нам яшчэ не час. — Яна стрымлівала слёзы, а голас яе дрыжэў. — Не пакідай мяне. Пойдзем разам, пачакай пакуль...

Ён быццам не чуў:

— За ўсе мае грахі, што был[illegible] і пра якія толькі думалася, праб[illegible] Адна цяпер мая турбота — без м[illegible]не стане табе няўтульна і самотна, хаця ў жыцці нашым з табой і без таго размоў было небагата. Мая віна, даруй мне і за гэта...

— Дарагі, не адыходзь. Мы з табой яшчэ нагутарымся, я пастараюся, я.

Ён заплюшчыў вочы, хацеў павярнуцца з боку, што занямеў, на спіну, але яна з усіх сваіх слабых жаночых сіл трымала яго тварам да сябе.

Свядомасць у яго то цьмянела, то прасвятлялася, зноў правальвалася, як раптам ён пачуў выразны загад:

— Ты не маеш, не маеш права зараз памерці. У цябе на зямлі засталіся яшчэ не зробленыя справы. — Гэта яна, сабраўшыся, загаварыла ягонай службовай мовай.

Ён з цяжкасцю расплюшчыў вейкі. У галаве нешта заскрыгатала, а цела змякла.

...Усю ноч яна размаўляла з ім, інтуітыўна выцягваючы аднекуль [illegible] памяці юрыдычныя тэрмі[illegible] выразы — усю ягоную казуістыку.

...Зімовая раніца засцігла яе каля мужавай пасцелі. Ледзьве не беспрытомная, з напаўзаплюшчанымі вачыма, яна машынальна паўтарала:

— Ты не маеш права, ты не маеш права не жыць...

Ужо ні ў што не верачы, яна паспрабавала прыўзняцца і кінула апошні адчайны позірк на яго.

Яна ўбачыла... ці ёй падалося?.. Не, сапраўды ўбачыла ягоны ясны позірк у адказ, як тады, на лекцыі, пры першай сустрэчы. Вусны ягоныя рассунуліся ў пяшчотнай усмешцы, прашапталі:

— Добрай раніцы, любая. Яшчэ пажывём?..

...Мне гэтая гісторыя здаецца раз-пораз ці то легендай, ці то праўдай. Адно ведаю: кожны дзень бачыў тую старую парачку, якая паволі шпацыравала штовечар па алеі бульвара Луначарскага ў Мінску. Іх сусед, мой знаёмы, гаварыў, што абодвум ужо за дзевяноста.

На жаль, даўнавата ўжо яны мне не сустракаюцца.

Раальд ЛЕВІН.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства “Радзіма”).

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК. Адказны сакратар Тацццяна КУВАРЫНА. Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА. Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК. Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ. Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР. Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК. Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА. Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 637.
Падпісана да друку 6.3.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).